# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 51 (721) 21 СНЕЖНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА

9 снежня прэзідыум ГП на сваім пасяджэнні найбольш прысвяціў часу абмяркоўцы дзейнасці трох аддзелаў БГКТ, якія працуюць у гарадскіх асяроддзях. Справаздачу з дзейнасці сваіх аддзелаў склалі: з гданьскага — старшыня Мікалай Іванюк, з варшаўскага — старшыня Юры Бусловіч і інструктар Віктар Швед, з беластоцкага — інструктар Марыся Макаль і сакратар аддзела Іван Стрышко.

Падчас дыскусіі прысутнымі было выказана многа заўваг і прапаноў адносна працы аддзелаў, а найбольш адносна працы гарадскога аддзела ў Беластоку. Пасяджэнне гэта было сапраўды карысным абменам вопытам у дзейнасці аддзелаў.

Пасля гэтага прэзідыум ГП прыняў інфармацыю, у якой была падсумавана праца аддзелаў БГКТ у перыяд святкавання 25-ай гадавіны народнай Польшчы.

Далей разглядаліся арганізацыйныя справы, да якіх, між іншым, належалі: прыняццё да працы ад 1-га снежня на пасаду інструктара ГП на Беластоцкі павятовы аддзел Янкі Цялушэцкага — настаўніка са Старога Ляўкова і ад 1-га студзеня актывіста аддзела БГКТ у Гданьску мгр Уладзіміра Паўлоўскага на пасаду культурна-асветнага кіраўніка ГП.

Прэзідыум ГП зацвердзіў таксама правілы трох конкурсаў:

1) правілы конкурсу на насценгазету «Жыццё і праца У. І. Леніна».

2) правілы на фатаграфічны конкурс «Мерапрыемства з нагоды 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна, 25-ай гадавіны падпісання дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і СССР і 25-ай гадавіны перамогі над фашысцкай Германіяй».

3) правілы конкурсу на беларускую песню пад загалоўкам «Конкурс беларускай песні — 1970», з нагоды 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна.

Арганізатарамі гэтых трох конкурсаў будуць: ГП БГКТ, рэдакцыя «Нівы» і ваяводскае праўленне ЗМВ. Правілы конкурсаў яшчэ надрукуем у «Ніве».

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ПРАПАГАНДЫ

У склад камісіі прапаганды ГП уваходзяць наступныя асобы: В. Баршчэўскі, М. Вішанка, А. Рафаловіч, В. Рудчык, Ю. Кіслы, Р. Мазалеўскі, О. Падлашчык, С. Пазнанскі, М. Самоцік, М. Суліма, А. Хшаноўскі. 10-га снежня на першым пасяджэнні было выбрана кіраўніцтва камісіі: Мікалай Самоцік — старшыня, Васіль Баршчэўскі — сакратар. Камісія апрацавала план працы на 1970 год і вызначыла адказных за падрыхтоўку матэрыялаў да паасобных пунктаў плана.

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ АСВЕТЫ

8-га снежня адбылося першае пасяджэнне асветнай камісіі ГП, якая складаецца з настаўнікаў і працаўнікоў асветы. Да яе належаць: А. Багроўская, М. Гайдук, А. Карпюк, М. Кураш, В. Сакоўскі, С. Кэнска, В. Рышчук, О. Паўлючук і А. Харкевіч. Прысутныя выбралі ўлады камісіі. І так старшынёй з'яўляецца М. Гайдук, намеснікам старшыні — А. Карпюк, сакратаром — В. Сакоўскі. Камісія абмеркавала і прыняла план працы на 1970 год. Складаецца ён з чатырох раздзелаў: 1) пачатковае школьніцтва, 2) сярэдняе школьніцтва, 3) вышэйшае школьніцтва і 4) асвета для дарослых. Кожны раздзел падзелены на шэраг пунктаў, якія закранаюць усе асветныя справы, патрэбныя для нашага беларускага асяроддзя. На гэтым пасяджэнні былі вызначаны адказныя за рэалізацыю паасобных пунктаў плана працы. (мх)



Стары дуб. Фота: Ул. Паўлючук

ЛЮДЗІ НАШЫХ ЧАСОЎ




Завандравала я марозным днём у Старое Беразова ў пошуках Семянюка. Аб ім ведала, што кіруе найлепшым у ваяводстве клубам «Руху». І ведала, што семянюкоў клуб развівае ўсебаковую культурна-асветную дзейнасць.

Стараберазоўскі клуб прывітаў мяне чыстымі вокнамі. Праз брамку ад вуліцы і агародчык з пасохшымі кветкамі па каменных ступеньках увайшла я і ўзялася за клямку. Зачынены? Акружыўшы дом ад панадворка, зайшла да гаспадара гэтага новага вясковага будынку, у якім і сам клуб памясціўся.

Жанчына праз акно ўсміхнулася прыветліва, як толькі на нашых вёсках усміхаюцца людзі да вандроўца.

Увайшла я ў прасторную кухню, як у святліцу. Сучасная мэбля і кухня ўжо без традыцыйнай печы...

Надзя Трашчотка (бо пра яе мова) адчыніла дзверы, павяла ў клуб. Акуратна прыбраны першы пакойчык з тэлевізарам, стаяць роўна столікі. На сценах саламянкі, а на іх актуальны лозунг пра гадавіну Леніна. Далей дыплом і фотагазета. (Фота выкананыя рукамі тутэйшай моладзі і апаратам, які ў мінулым годзе атрымалі яны як узнагароду за І месца па спаборніцтве клубаў).

З першага пакою праз калідорчык уваходзім у другі, дзе кіёск з газетамі і рознымі дробязямі. Чытальня клубу мае ўсе газеты, якія толькі дазволена клубу выпісаць. Яны, звычаем гарадскіх клубаў, заціснуты ў драўляныя ручкі, вісяць на стаянцы. У калідорчыку спачувальная Надзя Трашчотка павесіла ўласнае люстра і цешыцца, што прыдаецца бо «не адна дзяўчына не пройдзе, каб не прыглянуцца, не паправіць прычоску».

Задуменна назірае Надзя за жыццём і яго зменамі. «Ой знаеце, люблю паглядзець, як цяпер людзям... Як танцы клуб арганізуе, то дзяўчаты прыходзяць у казачках, знімаюць іх у калідорчыку, а абуваюць прынесеныя ў сумцы туфелькі. І чыста, і прыгожа. За маіх часоў, бывала, танцуеш у башмаках. Мы туфелькаў не мелі».

Надзя Трашчотка 40 кв. метраў свайго дома аддала пад клуб. Сама яна тут сочыць за парадкам і прадае ў кіёску, сама рыхтуе і падае смачна і моцна запараную каву.

Збіраецца ў клубе Старога Беразова многа людзей. Калі сустрэча якая, не хапае месца, і Надзя адчыняе тады дзверы ў сваю кухню. Яна: «Наш клуб цікава працуе і таму многа людзей сходзіцца».

Жыццёвая ўмеласць назіраць памагла Надзі Трашчотка зрабіць адзін з важнейшых вывадаў са змен, якія вёску нашу ахапілі. Менавіта, што вырасла на вёсцы зусім іншая форма грамадскага сужыцця. Цяпер гэтай формай з'яўляецца грамадская ўстанова, напрыклад, як у Старым Беразове, клуб. Перасталі людзі збірацца ўжо на кудзельніцы, або падпіраць плот... А Надзя акрэслівае коратка гэтую з'яву: «Цяпер людзі любяць клуб, у хатах у сябе пачысцяць, то і не вельмі хочацца наносіць пясок. Выгоду то выгоду парабілі гэтымі клубамі на вёсцы!»

У клубе крыжуюцца погляды і свежыя вясковыя навіны. Жыццё стала яўным, супольным. Выдаецца, што якраз гэтакія перамены ў вёсцы інспіруе стараберазоўскі клуб, якім па-сапраўднаму кіруе грамадская рада клуба на чале з Мікалаем Семянюком, які, як і многія маладыя са Старога Беразова, працуе ў Гайнаўцы пры лесе, але вечары і святы аддае працы ў клубе. Усе адчуваюць сябе тут пакрысе гаспадарамі. Усе ўносяць прапановы. У радзе клуба самыя актыўныя і незалежныя людзі — маладыя. Якраз вось нібы бяда выйшла, бо некалькі асоб з рады або замуж пайшло, або пажанілася. Трэба перавыбары рабіць. Бо (і гэта яшчэ астаецца перажыткам мінулага) жанаты ці замужняя на вёсцы хутчэй

Працяг на стар. 4

# Слядамі бацькоў

**«Патрыятычнае выхаванне павінна абапірацца на багацці перажыванняў і традыцыі нашых бацькоў і прабацькоў».**

**(Ул. Гамулка)**

Беластоцкая зямля мае багатыя ваенныя традыцыі. Хронікі гавораць, што на гэтай зямлі ішлі змаганні як з крыжацкай навалай, так і са шведскім нашэсцем, а пераможная бітва пад Праскамі са шведамі і брандэнбургчыкамі ў 1656 г. з'яўляецца адной з найбольшых пераможных бітваў гэтага перыяду. Люд Беласточчыны браўся за зброю ў перыяд нацыянальных паўстанняў: касцюшкоўскага, лістападовага і студзеньскага. Такія асобы, як інжынер Браніслаў Шварцэ, Кастусь Каліноўскі і Валеры Врублеўскі — гэта сімвалы ідэй і чынаў Беластоцкай зямлі.

Буржуазнай гісторыяграфіі міжваеннага перыяду не залежала на паказанні гэтых традыцый, паколькі былі яны звязаны з найбольш прагрэсіўнымі рухамі. Шырокую даследчую і папулярызатарскую працу аб прыгожых картах хвалы польскай зброі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, уключна з атрыманнем першай непадлегласці і II сусветнай вайны, вядуць зараз ваенныя гісторыкі пад кіраўніцтвам праф. др Станіслава Гербста. Адным з праяваў гэтай дзейнасці было стварэнне музея Войска Польскага ў Беластоку.

Навуковыя публікацыі — гэта падстава абгрунтаванай папулярызацыі. У выніку праведзеных даследаў апублікавана 26 навуковых прац, прысвечаных ваеннай гісторыі Беласточчыны (уключна з удзелам Войска Польскага ва ўмацаванні народнай улады ў гадах 1944—48). У папулярызатарскай дзейнасці нельга не бачыць такіх пачынанняў, як арганізацыя гістарычных канферэнцый і сесій, прысвечаных студзеньскаму паўстанню на Беласточчыне, змаганням у 1939 г., барацьбе партызанскіх атрадаў і т.п. Нягледзячы на недахоп памяшканняў арганізавана некалькі выставак, прысвечаных ваеннай гісторыі Беласточчыны. Маючы на ўвазе шырокую папулярызацыю гераічных баёў у раёне Візны ў 1939 г., даследчыкі ваеннай гісторыі Беластоцкай зямлі прымалі ўдзел у навуковай кансультацыі пры рэалізацыі дакументальнага фільма «Вернасць».

Музей Войска Польскага ў Беластоку вядзе ажыўленае супрацоўніцтва ў галіне папулярызацыі ваеннай гісторыі і збірання матэрыялаў, якія адносяцца да ваенных спраў (мілітарыяў), з шматлікімі арганізацыямі і ўстановамі.

Вельмі цешыць факт супрацоўніцтва музея з арганізацыяй наймалодшых — нашым гарцэрствам. У бягучым годзе супольна з Камэндай харугвіі ЗГП была арганізавана акцыя **«Слядамі нашых бацькоў».** Мэтай акцыі было збіранне гарцэрамі матэрыялаў і дакументаў з тэрыторыі ваяводства, а таксама інфармацый аб тых прадметах, якіх не ўдалося атрымаць у часе вядзення акцыі. Акцыя «Слядамі нашых бацькоў» здаецца спаўняць шырэйшае, а мо' і важнейшае заданне ад самага працэсу

Працяг на стар. 4



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі




## СВЕТ

### ТАВАРНЫ АБМЕН

Нядаўна ў Маскве быў падпісаны пратакол аб таварным абмене між Польшчай і Савецкім Саюзам на 1970 год. Згодна з пратаколам, гандлёвы абарот між Польшчай і Савецкім Саюзам павялічыцца ў 1970 годзе на 10 працэнтаў.

Польшча будзе экспартаваць судны, маторы высокага ціску, электрычныя вырабы, прылады для лёгкай і спажывецкай прамысловасці, камплектныя хімічныя прадпрыемствы, фабрыкі для прадукцыі пільснёвых пліт, радыётэхнічныя вырабы, матэматычныя машыны, сельскагаспадарчыя машыны, мікрабусы і самаходы для паставак тавараў, таварныя і пасажырскія вагоны. Польшча будзе таксама пастаўляць у СССР такія прамыслова-спажывецкія тавары, як: тканіны, адзенне, трыкатажныя вырабы, абутак, мэблю, лякарствы, касметыку.

Савецкі Саюз будзе экспартаваць у Польшчу: унікальныя металаапрацоўчыя станкі, бурыльныя прылады, гарняцкія прылады, дарожна-будаўляныя машыны, трактары, дызлёвыя лакаматывы, самаходы і пасажырскія самалёты. СССР будзе таксама пастаўляць нафту, жалезную руду і іншыя руды і металы, а таксама бавоўну, лён, дрэва і іншыя. У 1970 годзе Савецкі Саюз будзе прадаўжаць таксама пастаўку збожжа.

### СУПРАЦЬ ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ

Частка амерыканскіх кангрэсменаў выступіла з ініцыятывай пашырэння гандлю з усходняй Еўропай. Супроць гэтага выступіла адміністрацыя Ніксана. У сувязі з такім становішчам адміністрацыі, Палата Прадстаўнікоў ЗША адкінула праект лібералізацыі гандлю, які перад гэтым быў прыняты Сенатам і цешыўся падтрымкай значнай колькасці кангрэсменаў.

### ГРЭЦЫЯ ВЫМУШАНА

Грэчаскі рэжым палкоўнікаў, здаючы сабе справу, што можа быць выключаны з Еўрапейскай Рады, пастанавіў сам адыйсці.

Такі крок быў падыктаваны двума фактарамі: свядомасцю, што з увагі на націск грамадскай думкі не ўдасца абараніць свайго членства ў Радзе, нягледзячы на выразную дапамогу ЗША, і — імкненнем да працягвання палітыкі, парушаючай правы чалавека, палітыкі катавання і палітычных праследванняў.

### ВЫСТУПЛЕННЕ БРАНДТА

Выступаючы ў мінулым тыдні на прэсканферэнцыі, заходнегерманскі канцлер В. Брандт, выказаў гатоўнасць федэратыўнага ўрада да вядзення перагавораў з усімі дзяржавамі — членамі Варшаўскага Дагавору. Паводле яго думкі, яшчэ не прыйшоў адпаведны момант для склікання агульнаеўрапейскай канферэнцыі бяспекі. — Бон аднак стараецца, — сказаў Брандт, — каб палепшыць суадносіны з Савецкім Саюзам і іншымі краінамі ўсходняй Еўропы, захоўваючы сціслыя і сакрэтныя кантакты з саюзнікамі з НАТО. Хоча ён таксама выясніць суадносіны між Бонам і ГДР.

А.К.

## БССР

### ЦЭНТРАЛЬНАГА

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. У парадку дня пленума былі наступныя пытанні: аб выніках работы III Усеагульнага з'езду калгаснікаў і задачах партыйных арганізацый рэспублікі і аб далейшым паляпшэнні работы пярвічных партыйных арганізацый у святле патрабаванняў XXIII з'езду КПСС.

З дакладам па першаму пытанню выступіў Першы сакратар ЦК КП Беларусі П. Машэраў. Па другому пытанню з дакладам выступіў сакратар ЦК КП Беларусі Ф. Сурганаў.

### З ФРАНЦЫІ

Дэлегацыя камуністычнай моладзі Францыі пабывала ў Мінску. Сакратар Цэнтральнага Камітэта руху камуністычнай моладзі Францыі Ралан Фаваро і член Нацыянальнага бюро саюза дзяўчат Францыі Мірэй Рыў мелі гутаркі з першым сакратаром Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі Генадзем Жабіцкім. Французскія госці былі прыняты сакратаром ЦК КП Беларусі С. Пілатовічам.

Адбыліся таксама сустрэчы і гутаркі з моладдзю Беларусі.

### НАРОДНАГА

У сталіцы Беларусі пабывала дэлегацыя работнікаў народнага кантролю Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Узначальваў яе старшыня Цэнтральнай камісіі народнага кантролю Чэхаславакіі Драгамір Кольдэр.

Разам з чэхаславацкімі гасцямі прыбыў суправаджаючы іх у паездцы па Саюзе старшыня Камітэта народнага кантролю ССР П. В. Каванаў.

Адбылася гутарка са старшынёй Камітэта народнага кантролю Беларускай ССР М. Лагірам. Ён азнаёміў гасцей са структурай і дзейнасцю органаў народнага кантролю рэспублікі.

Кіраўнікоў чэхаславацкай дэлегацыі прыняў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. Машэраў.

### РАЗГЛЯД

Пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пачалі разгляд Дзяржаўнага плана і Дзяржаўнага бюджэту БССР на 1970 год, а таксама справаздачы аб выкананні бюджэту за 1968 год.

### ФОТАВЫСТАЎКА

Дэлегацыя Беларускай ССР на XXIV сесію Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый наладзіла ў Н'ю-Йорку цікавую фотавыстаўку «Ленін і Беларусь».

### АБ ЗЛАЧЫНСТВАХ

Беларуская зямля, шчодра палітая ў гады вайны крывёй савецкіх людзей, зноў сведчыць аб злачынствах фашысцкіх захопнікаў. Недалёка ад Мінска, на месцы былога канцэнтрацыйнага лагера ў вёсцы Масюкоўшчына, будаўнікі выявілі траншэю з астанкамі людзей. Іх аказалася 250. Спецыяльная камісія, створаная для расследвання новых фактаў злачынстваў, учыненых нямецкімі фашыстамі, устанавіла, што ўсе ахвяры былі савецкімі ваеннапалоннымі.

Адбылося ўрачыстае перапахаванне астанкаў воінаў Савецкай Арміі.

(ся)

## ПОЛЬШЧА

### У 1970 ГОДЗЕ

11 снежня адбылося пасяджэнне Сеймовай Камісіі гаспадарчага плану, бюджэту і фінансаў, прысвечанае праекту нацыянальнага гаспадарчага плана на 1970 год. З дакладам на гэтую тэму выступіў старшыня Камісіі планавання пры Радзе Міністраў — Юзэф Кулеша. Праект плана на 1970 год апрацаваны так, каб у максімальнай ступені выканаць заданні гэтай пляцоўкі, стварыць як найлепшыя ўмовы да рэалізацыі заданняў наступнай пяцігодкі і выправіць шэраг дыспрапорцый, якія тармозяць гаспадарчае развіццё краіны. У праекце плана прымаецца неабходнасць зніжэння тэмпа ўзросту інвестыцыйных сродкаў пры адначасовым узросце эфектыўнасці аддаваных да выкарыстання інвестыцый, а таксама — пэўнае зніжэнне тэмпа ўзросту прадукцыі ў пэўных галінах прамысловасці пры адначасовым паляпшэнні іх якасці і эканамічных вынікаў. Валавая прадукцыя прамысловасці ў 1970 годзе павялічыцца на 7,3 працэнта, а інвестыцыйныя сродкі — на 2,5 прац. (на працягу апошніх трох гадоў інвестыцыі ўзрасталі ў сярэднім на 9 працэнтаў у год). Прымаецца план павелічэння валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі на 2,9 працэнта, прычым раслінная прадукцыя павінна ўзрасці на 4,2 прац., а жывёльная — на 1 працэнт.

У галіне забеспячэння насельніцтва таварамі план прадугледжвае патрэбу асартыментнага дастасавання тавараў і змен у структуры спажыцця. Прымаецца павелічэнне пастаўкі тавараў на рынак на 6,2 працэнта. Забяспечаць яны агульную раўнавагу рынку. Могуць аднак выступіць надалей цяжкасці ў трывалай раўнавазе падачы і запатрабавання на некаторыя тавары, а асабліва на мяса і масла. Прадугледжваецца, што пастаўка мяса і мясных вырабаў на ўнутраны рынак павялічыцца ў 1970 годзе на 2,1 працэнта.

У дакладзе тав. Юзэфа Кулешы з націскам падкрэсліваецца неабходнасць супрацьставіцца імкненням да паляпшэння акумуляцыі шляхам павышэння цэн на тавары спажыцця. «Трэба пры аказіі сцвердзіць, — сказаў ён, — што пагалоскі аб падрыхтоўцы павышэнняў цэн з'яўляюцца фальшывымі і беспадстаўнымі».

### НАРАДА Ў ЦК ПАРТЫІ

11 снежня адбылася пад кіраўніцтвам сакратара ЦК партыі Балеслава Яшчука нарада эканамічных сакратароў ваяводскіх камітэтаў партыі. Прысвечана яна была ацэнцы актуальнай гаспадарчай сітуацыі краіны, прынцыпам гаспадарчага плана на 1970 год і ацэнцы прац над падрыхтоўкай наступнага 5-гадовага плана.

**(п)**

**12 снежня памёр ва ўзросце 46 гадоў**

**тав. ФЁДАР ГАЙДУЧЭНЯ**

**інспектар сельскагаспадарчага аддзела ЦК партыі, заслужаны дзеяч ПРП і ПАРП, узнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым Крыжам Заслугі і іншымі адзначэннямі. Быў шматгадовым актыўным членам Варшаўскага аддзела БГКТ.**

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕЛЯ ДРУЖБЫ

З нагоды 25-ай гадавіны дзейнасці Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку адбылося выязное пасяджэнне Цэнтральнай вясковай камісіі гэтай арганізацыі. Удзельнікі пасяджэння выслухалі два даклады, з якіх адзін быў прысвечаны святкаванню 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна, а другі — культурна-асветнай дзейнасці таварыства ў вясковым асяроддзі Беластоцкага ваяводства. Затым члены камісіі і актывісты таварыства пабывалі ў многіх мясцовасцях ваяводства. Між іншым, наведалі яны Нарву, Гарадок і вёску Аўгустова, дзе знаёміліся з праявамі дзейнасці таварыства ў справе польска-савецкай дружбы.

### ВЯСКОВАЕ САМАУПРАЎЛЕННЕ

Зараз сельскагаспадарчыя гурткі вясковых гаспадынь згуртоўваюць на Беласточчыне амаль 130 тысяч членаў. Яны ўжо на практыцы ажыццяўляюць прынцып вясковага самаўпраўлення. У сельскагаспадарчых гуртках адбываюцца цяпер справаздачна-выбарчыя сходы. Іх вынікам, а таксама перспектывам развіцця вясковага самаупраўлення ў гадах 1971—1975 прысвяціў сваё пленарнае пасяджэнне Ваяводскі саюз сельскагаспадарчых гурткоў. Аказваецца, што на палях Беласточчыны праз 5 год будзе працаваць аж 8 500 трактараў, што на механізацыю сельскай гаспадаркі адводзіцца амаль мільярд злотых, што ў 1973 годзе закончыцца арганізацыйная разбудова сельскагаспадарчых гурткоў.

### «БЕЛАСТОЧЧЫНА»

Гэта загаловак кніжкі, якую выдала Дзяржаўнае навуковае выдавецтва ў Варшаве. 11 спецыялістаў з розных галін грамадскага і гаспадарчага жыцця змяшчаюць у гэтай кніжцы артыкулы і апрацоўкі пра пасляваеннае развіццё і пра перспектывы на будучыню Беластоцкага ваяводства.

### РАДЫЁ БЕЛАСТОК

Нядаўна рэдакцыя Беластоцкага радыё і тэлебачання адзначала 17 гадавіну свайго існавання. Зараз звыш 120 тысяч уласнікаў радыёпрыёмнікаў слухае на Беласточчыне перадачы, якія трансліруе беластоцкая радыёвяшчальная станцыя. Праз некалькі год рэдакцыя Беластоцкага радыё і тэлебачання перабярэцца ў новае памяшканне.

### З ДЫМАМ

На працягу 9-ці месяцаў г.г. на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства здарыліся 872 пажары, у выніку якіх пайшло з дымам рознага дабра на амаль 50 мільёнаў злотых.

### У ГРАМАДЗЕ СІДРА

Грамада Сідра знаходзіцца ў Сакольскім павеце. Гэта тыповы сельскагаспадарчы раён Сакольшчыны, у якім жыве 700 гаспадароў. Найбольш тут гаспадароў, якія маюць па 5—10 гектараў зямлі. У вёсках: Бярвішы, Макаўляны і Снічаны існуюць вясковыя клубы «Рух». Вёска Сідра мае клуб «Маладога селяніна». Таксама ў Сідры актыўна дзейнічае сельскагаспадарчы гурток. Кожны з яго сямі трактараў працаваў у мінулым сезоне па 2400 гадзін. Гэта вельмі многа. Таму сідраўскі сельскагаспадарчы гурток дабіўся аж 86 тысяч зл. прыбытку.

(вр)




**Niedziela, 21.XII.**

8.15 Program dnia. 8.20 TV Kurs Rolniczy: „Wpływ wczesnego osadzania na częstotliwość oproszeń". 8.55 „Przypominamy, radzimy". 9.10 Dla młodych widzów: „Radość i gorycz" — film TVP („Czterej pancerni i pies" (odc. II). 10.30 „Miasto muzeum" (Moskwa), 11.15 „Melodie na dzień dobry". 11.35 „Aby pustynie zakwitły" — film dok. NRD. 12.00 Dziennik. 12.15 „Spotkanie z muzyką" (koncert dla dzieci) Dyryguje i prowadzi J. Krenz. 13.15 „ W starym kinie". 14.10 „Porównania" — program wiejski. 15.00 „Cecylia — lekarka wiejska" — film. 15.25 Dla dzieci. 16.05 „Komendant stanicy" — film TVP („Przygody pana Michała"). 16.35 PKF. 16.45 „Klub Sześciu Kontynentów". 17.25 Teatr Niedzielny: H i L. Karwaccy — „Przyjechał Wojtek do Łodzi". 18.30 „Kabaret Dreptak" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Igraszki z diabłem" J. Drdy. 21.50 Felieton literacki. 22.05 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 22.XII.**

14.25 i 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 Magazyn ITP. 17.45 „Echo stadionu". 18.00 „Jeden z sześciu dni" — film TVP. 18.15 „Kino Filmów Animowanych". 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: C. Sternheim — „Snob". 21.25 „Kontakty". 21.55 Dziennik.

**Wtorek, 23.XII.**

9.00 „Teleferie". 10.15 „Druga strona medalu" — film fab. wł. 11.45 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Królestwo pszczół" — film dok. radz. 17.10 „Obiektyw" — program publ. 17.40 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Druga strona medalu" — film fab. wł. 21.35 „Czwarta zmiana". 22.15 Dziennik.

**Środa, 24.XII.**

9.00 „Teleferie". 10.10 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Dla dzieci: „Szare kaczątko" — film fab. radz. 16.05 Przerwa. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: — drugi wieczór baśni. „Opowieść o żywej wodzie". 17.10 „Jezioro Flamingów" — film fab. meksyk. 18.30 „Światowid". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Biesiada ludowych poetów" („Z Kolbergiem po kraju"). 20.40 „Zapomniana melodia" — film arch. pol. 22.05 „I ty będziesz moją panią" — film TVP. 22.25 „Złote serce" — film fab. USA.

**Czwartek, 25.XII.**

10.05 Program dnia. 10.10 Dla młodych widzów: „Ostatni Mohikanin" — film fab. jug. 11.40 „Późnogotyckie malowidła" („Szlakiem zabytków"). 12.00 Dziennik. 12.10 „Zwierzęta z wysp Galapagos" — film ang. 13.05 Dla dzieci: B. Leśmian — „Sindbad — Żeglarz" — widowisko Państw. Teatru Lalki i Maski „Groteska". 14.05 „Cyrkowy wóz" — program rozrywkowy. 15.15 Dla młodych widzów: „Panienka z okienka" — film fab. pol. 17.50 „Szopka Góralska". 18.20 „Bigos myśliwski" — rep. 18.45 „Sport 69" — film TVP. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Mandrin" — film fab. franc. 22.05 „Kariera" — program wg scenariusza J. Gruzy i J. Fedorowicza.

**Piątek 16.XII.**

9.30 Program dnia. 9.35 Dla dzieci: „Czarodziejska lampa Aladyna" — film fab. radz. 11.00 „Arcydzieło" (Berlin). 12.00 Dla młodych widzów: „Skradziony balon" — film fab. czechosł. 13.25 „Muzyka Wawelskich Koronacji". 14.20 „Debiut". 14.40 „Tajemnica Azji" — film TVP („Przygody pana Michała"). 15.10 „Sarmaci" — rep. 15.30 Teatr TV: Molier — „Mieszczanin szlachcicem". Reż. — J. Gruza. 16.40 „Synowie ludożerców" — rep. St. Szwarc-Bronikowskiego („Przez antypody") cz. 1. 17.10 „Rewia Polskich Nagrań". 18.15 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kabaret „Część artystyczna". 21.15 „Pół żartem, pół serio" — film fab. USA. 23.10 Wiadomości sportowe.

**Sobota, 27.XII.**

9.00 „Teleferie". 10.30 „Kapelusz Pana Anatola" — film fab. pol. 11.55 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 Program tygodnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. I pt. „Zdrada". 17.50 „Spotkania z przyrodą". 18.15 „Pegaz". 18.50 „W chmurach i piórach" — rep. St. Szwarc-Bronikowskiego („Przez antypody") cz. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Wieczór w Olimpii" — film rozr. franc. 21.35 „Nocne sam na sam" — film fab. czechosł. 23.00 „Śpiewa Dempsey Knight — piosenkarz australijski" — film.




**Piątek, 19 grudnia**

14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.15 Film-balet. 15.35 „Panorama nowin". 15.45 „Na przodujących budowach pięciolatki". 16.15 „W. Lenin". Kronika życia i działalności". 18.00 „Sztafeta nowin". 18.30 TV barwna. 20.30 Zasłużona artystka BSRR A. Rynkowicz. 21.30 Nowiny.

**Sobota, 20 grudnia**

8.30 Ludowy artysta ZSRR A. Wasadze. 9.30 „Szkatułka muzyczna". 9.55 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Koncert Omskiego rosyjskiego ludowego chóru. 11.00 Uniwersytet ludowy. 11.45 Nowiny. 11.50 Uniwersytet ludowy. 12.30 TV teatr dla dzieci. 13.30 Zasłużony artysta BSRR A. Kalcaty. 14.15 Film animowany dla dzieci. 14.30 „Świat socjalizmu". 15.00 Nowiny. 15.15 „Współpraca". Reportaż. 16.00 TV barwna. 19.00 „Włodarze bez masek". „Najbogatszy człowiek świata". 19.30 „Pomyłka H. Balzaka" Film fab. 21.05 Koncert z Wilna. 21.35 Nowiny.

**Niedziela, 21 grudnia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 Turniej dla uczniów. 9.30 Koncert symfoniczny. 10.20 „Ludzie gwardii Leninowskiej". 11.00 Dla uczniów". 12.00 „Nauka — produkcji". 12.30 „Godzina wiejska". 13.30 Dla żołnierzy. 14.00 TV barwna. 16.00 Klub Filmowy. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Koncert. 18.00 A. Puszkin. „Dama pikowa". Spektakl TV. 19.30 „Siedem dni". 20.15 „Halo szukamy talenty". 21.15 „Tydzień sportowy". 21.30 Nowiny.

 

Хвалім

## Клуб Крэйзы

Добра працуе культурна-асветны клуб у Мілейчыцах, кіраўніком якога з'яўляецца Сяргей Крэйза, мясцовы беларускі актывіст. З прыходам сябры Крэйзы нарэшце навялі тут лад, пачалася праца над стварэннем атмасферы культурных адносін у асяроддзі занудджанай бяздзейнасцю моладзі. Шырыцца аматарскі рух.

Адзначаючы гэты факт культурнага ажыўлення ў Мілейчыцах, хочам дадаць, што ў разгар культурна-асветнага сезона пацікавімся бліжэй мілейчыцкім жыццём і напішам больш шырока аб яго ўдачах і праблемах. (ся)




У сваіх вандраваннях па вясковых школах давялося мне пачуць наракані на недахоп беларускіх кніжак у гайнаўскай кнігарні.

— У Бельску беларускіх кніжак многа, — гаварылі мне, — а ў нас зусім няма.

Не адкладаючы, я адразу наведала абедзве кнігарні, каб даведацца, у чым справа.

Кіраўнік бельскай кнігарні імпартаваных выдавецтваў (так называецца кнігарня заграпічных кніжак) Анатоль Пасынюк паказаў мне вялікі рад полак з беларускімі кніжкамі.

— Тут і для дзяцей і для дарослых, — сказаў ён. — Апрача звычайнага продажу, высылаем кніжкі поштай на кожную просьбу. Да нас прысылаюць заяўкі на кніжкі нават з іншых ваяводстваў.

Бельская кнігарня атрымлівае кніжкі непасрэдна з Варшавы. Яна не звязана з Беластоцкім домам кніжкі, а кіраўнік кнігарні сам непасрэдна высылае адпаведныя заказы на кніжкі ў варшаўскі цэнтр распаўсюджвання.

Гайнаўская ж кнігарня — гэта адзіны дом кніжкі ў Гайнаўцы, і зразумела, што абсалютную большасць складаюць тут польскія выдавецтвы.

Аднак ёсць тут і беларускія кніжкі. Як паінфармаваў мяне кіраўнік гайнаўскай кнігарні, у іх ёсць каля 25 загалоўкаў беларускіх дзіцячых кніжак. Вось хоць бы некалькі з іх для прыкладу: некалькі падборак беларускіх казак, вершаваныя казкі Уладзіміра Дубоўкі і Васіля Віткі, п'есы для школьнай самадзейнасці, «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, «Зорны камень» Ул. Шыцікa, зборнік дзіцячай творчасці «Вачамі дзяцей», «Літаратурныя віктарыны» Т. Звяровіча і М. Гелера і іншыя.

Для настаўнікаў асабліва прыдатныя былі б «Зборнік дыктовак для 1—4 класаў» і «Зборнік дыктовак для 5—8 класаў».

Амаль няма тут беларускіх кніжак для дарослага чытача. Але, як сказаў кіраўнік, гэта таму, што мала на іх бывае ахвотных. Часам беларускія кніжкі ляжаць на полках вельмі доўга. Ці сапраўды няма на іх ахвотных? А калі так, дык слаба яшчэ ў нас прапагандуюць беларускую літаратуру гурткі БГКТ. Ці зацікавіліся яны, колькі беларускіх кніжак ёсць у грамадскіх бібліятэках?

Кожная кнігарня мае магчымасць сама заказваць для сваіх кліентаў кніжкі. І калі мы будзем часцей наведвацца ў кнігарню па беларускія кніжкі, мы іх атрымаем.

Што датычыць падручніка беларускай мовы для 4 класа, якога не могуць дачакацца і бацькі і дзеці, дык нам ужо паведамілі, што пару дзён таму назад ён паявіўся ў продажы ў кнігарнях. Затрымка аказалася па нейкіх тэхнічных прычынах, бо аўтары аддалі падручнікі ў друк яшчэ перад вераснем мінулага года, і падручнік гэты ў мінулым годзе друкаваўся па частках у «Зорцы».

Спадзяемся, што другое паўгоддзе чатырохкласнікі пачнуць з новымі падручнікамі. (яч)



# КАНФЕРЭНЦЫЙНЫЯ РЭФЛЕКСІІ

Давялося мне пабываць на некалькіх метадычных канферэнцыях настаўнікаў беларускай мовы. Сур'ёзна і сумленна падрыхтаванымі, паводле маіх назіранняў, бываюць канферэнцыі ў Беластоцкім павеце. Магчыма, што і ў іншых паветах не менш сумленна рыхтуюцца гэтыя ж канферэнцыі, але, на жаль, аб гэтых канферэнцыях мне не было вядома.

Канферэнцыі ў Беластоцкім павеце і іх тэматыка — глыбока прадуманы, калектыўна пракансультаваны. У мінулым годзе мы паказвалі на старонках «Нівы» канферэнцыю, прысвечаную фарміраванню патрыятычных пачуццяў у дзяцей беларускай меншасці, пражываючай у Польшчы. Зразумела, што тэма вельмі складаная і не пад сілу вырашыць яе самім настаўнікам. Але сама фармуліроўка настолькі актуальнай і не парушанай дагэтуль тэмы сведчыць аб сур'ёзным падыходзе да справы кіраўніка метадычнай секцыі.

У гэтым годзе зноў давялося мне быць на метадычнай канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы ў Гарадку. Справаздачу з урока мы ўжо перадалі. На канферэнцыі была пастаўлена актуальная праблема — навуковыя дапаможнікі.

— Што мог вынесці з гэтай канферэнцыі настаўнік мовы? — задаў я сабе пытанне, ацэньваючы канферэнцыю з перспектывы часу. Па-мойму, многа. На канферэнцыі ў Гарадку настаўнікі пазнаёміліся, як можна выкарыстаць магнетафон на ўроках беларускай мовы, як можна самаму зрабіць табліцы да навучання мовы, як можна выкарыстоўваць насценгазету і карціны. Усё гэта дэманстравалася не як арганізаваны паказ, але ў часе ўрока, з нармальнай тэмай і мэтамі. Усё гэта было падсумавана тэарэтычна ў дакладзе на тэму навуковых дапаможнікаў, які зрабіў кіраўнік секцыі бел мовы на Беластоцкі павет Сцяпан Копа.

У вядзенні ўрока спадабалася мне і тое, што настаўніца не трымалася рэжыму часу 45 мінут і прадоўжыла ўрок. Гэта было, па-мойму, зусім нармальным, паколькі хадзіла аб тое, каб паказаць як найбольшую колькасць выкарыстоўваемых навуковых дапаможнікаў на ўроку. Здаецца, што асветныя ўлады павінны даваць афіцыяльны дазвол на такія прадоўжаныя паказовыя ўрокі на метадычных канферэнцыях. Новым і вельмі важным для гарадоцкай канферэнцыі быў той факт, што выкарыстанне навуковых дапаможнікаў было паказана на паўторным уроку і то ўроку граматыкі. Настаўнікі павінны былі вынесці з гэтай канферэнцыі, што на ўроках граматыкі таксама можна і трэба выкарыстоўваць глыбока ідэйны змест (у даным выпадку аб Леніне), а не толькі пра вясну, зіму ці восень, як гэта найчасцей здараецца на ўроках граматыкі.

Часта чуюцца галасы нашых асветных дзеячоў, быццам бы выратаваць у забеспячэнні прадмета беларускай мовы навуковымі дапаможнікамі можа толькі БССР. Дайшло да майго ведама,



Падінспектар Крэнтоўскі прыслухоўваецца дыскусіі.

што беларускае таварыства выступіла ўжо з адпаведнымі прапановамі да Міністэрства, рыхтуецца адпаведная дэлегацыя спецыялістаў. Гэтаму я не супрочу. Але назіраючы канферэнцыі і працу настаўнікаў некаторых школ, прыходжу да вываду, што асветныя ўлады нічога не зрабілі, каб заахвоціць **нашых настаўнікаў у Польшчы** да стварання, або праектавання навуковых дапаможнікаў для выкладання беларускай мовы. А некаторыя ж з іх маюць прыгожыя дасягненні. Разумею, што справа цяжкая, напрыклад, з пласцінкамі, на якіх запісаны былі б творы беларускіх класікаў; магчыма, што не лёгка іх атрымаць і на Беларусі. Але, па-мойму, і на гэта ёсць выхад. Можна і трэба выкарыстаць існуючыя ў школах магнетафоны, запісаўшы перад гэтым магчыма добра літаратурныя творы. Падобным спосабам можна вырашыць справу навучання беларускіх песень. Зразумела, што гэта толькі некаторыя прапановы. Выкананне іх магло б парадзіць новыя ініцыятывы і думкі. Гэтым, тут у нас, а не выездамі, павінны заняцца ўлады і дзеячы асветы. Імпарт дапаможнікаў з БССР павінен нам быць толькі дапаможнікам, а не галоўным вырашэннем гэтай праблемы.

А. К.

фота аўтара




Настаўніца Н. Бараноўская ля насценгазеты.

### СУСТРЭЧЫ З АЎТАРАМ «ЗАГОНАЎ»

Кніжка прозы Сакрата Яновіча — «Загоны» — карыстаецца зацікаўленнем у асяроддзі моладзі і дарослых.

Аўтар «Загонаў» у апошні час наведаў шэраг мясцовасцей і школ. У час наведання школы ў Гацьках С. Яновіч падпісаў пятнаццаць экземпляраў сваёй кніжкі зацікаўленым яго творчасцю вучням. У школе ў Аўгустове каля Бельска наш празаік пазнаёміў прысутных з некаторымі справамі свайго жыцця, якія ўплылі на напісанне тых ці іншых твораў, што складаюць зборнік «Загоны».

С. Яновіч наведаў таксама школы і клубы ў Сямяціцкім павеце. Сустрэўся з удзельнікамі павятовага конкурсу, прысвечанага гісторыі Беларусі, які адбыўся ў Клюковічах. Затым быў запрошаны ў суседнюю вёску Вілінава, дзе ў сардэчным настроі адбылася сустрэча ў будынку мясцовай школы. Падобная сустрэча адбылася ў культурна-асветным клубе ў Мілейчыцах.

С. Яновіч сустрэўся са сваімі чытачамі ў сядзібе Аддзела БГКТ у Варшаве. (вр)




### Лужыцкі класік

Шэсцьдзесят гадоў таму назад памёр **Якуб Барт-Цішынскі**, класік літаратуры самага малога славянскага народа, стотысячных лужычан, якія пражываюць на паўднёва-ўсходняй тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Упершыню за тысячагадовую гісторыю лужычан створаны ім усе ўмовы для нацыянальнага развіцця. На іх мове выдаюцца кніжкі літаратурнага, навуковага, палітычнага характару, а таксама створаны ўсе ўстановы, неабходныя ў гарманійным развіцці нацыі.

Друкуем верш Якуба Барт-Цішынскага ў перакладзе на беларускую мову А. Зарыцкага са зборніка «Там, дзе Шпрэвя шуміць» (паэзія лужыцкіх сербаў), выдавецтва «Беларусь».

### СЕРБСКАЯ МОВА

**Хай наш народ малы, ды наша слова**
**Вялікі скарб. Узброены мы слаба,**
**А мова — меч, чый звон заўжды прываба.**

**Прыніжан люд, ды з крыллем наша мова.**

**Народ мой бедны, у мове ж скарб захован.**
**Свая — дзяўчо, чужая ж мова — баба,**
**Што на яе рыззё ўздзяе, нахаба,**
**На стройны стан красуні чарнабрывай.**

**У нашай роднай мове столькі гарту,**
**Што хоць вастры на ёй клінок сталёвы.**
**І плодная яна і славы варта.**

**Яна, як казка ў прамяністым ззянні,**
**Заранка, што з нябёс бліскоча ўранні,**
**Нібыта дыяменты яе словы.**



 

# Kontrasty

Прапануем вам зацікавіцца снежаньскім нумарам беластоцкага грамадска-культурнага месячніка «Кантрасты», які яшчэ можна купіць у кіёсках. Ужо на першай старонцы прыкоўваюць нашу ўвагу нейкія дзіўныя птушкі. Гэта жыхары Белавежскай пушчы. Пазнаёміцца з імі можна ў белавежскім прыродазнаўчым музеі, артыкул пра які змяшчаюць «Кантрасты».

Сучасны статыстычны беластачанін — які ён? Пра гэта расказвае Тамара Елісеева. Аказваецца, што цяперашні жыхар Беласточчыны (мужчына) мае 173,1 см росту, важыць 68,8 кг, жанчына — 159,4 см, вага — 56,5 кг

Варта ўважна прачытаць артыкул В. Манкевіча «Вы памыляецеся, генерал!» Аўтар на аснове архіўных матэрыялаў выкрывае гітлераўскага генерала Гудэрыяна адносна «рыцарскай» паставы Вермахта, асабліва ў час ваенных дзеянняў на Беласточчыне.

На старонках «Кантрастаў» працягваецца дыскусія аб беластоцкім літаратурным асяроддзі. Дык варта пазнаёміцца з адным з лепшых прадстаўнікоў гэтага асяроддзя, з паэтам Веславам Казанэцкім, які расказвае пра асноўныя прынцыпы сваёй творчасці. Адначасова «Кантрасты» друкуюць яго вершы. Яны цікавыя па зместу і па мастацкаму афармленню. У гэтым жа нумары знойдзем вершы Б. Плютовіча, які друкаваўся і ў «Ніве», а таксама верш маладой пачынаючай паэтэсы з Гайнаўкі — Галіны Кабац. Яе верш «Ваенка», пабудаваны на матывах вядомай песні, гучыць вельмі прыемна. Затым «Кантрасты» змяшчаюць шмат этнаграфічных матэрыялаў з наваколля Цеханоўца, рэпартаж пра беластоцкія ветракі і пра мінулае Тыкоціна, ды і іншыя матэрыялы. (вр)

## ЧАМУ РАЗВАЛЬВАЮЦЦА МАСТАЦКІЯ ГУРТКІ?

Кажуць, таму што гэта натуральнае: родзяцца і гінуць. Як усё ў жыцці. Гаворачы так, напэўна, маем шмат рацыі, але недаацэньваем другой прычыны, надта істотнай: амбіцыянальнасці. Прытык такі кірую, перад усім, у адрас арганізатараў, актывістаў, якім павінна залежаць не на смерці амбіцый у гуртках мастацкай самадзейнасці, але якраз наадварот! Дзе няма амбіцый, там няма і гуртка.

Надта ж часта можна пачуць у некалі добрых, а цяпер мёртвых мастацкіх гуртках такія словы: зрабілі мы многа, прайгралі на сваёй сцэне ўсе «суды», «мікітавы лапці», «прымакі», «пярэстыя красулі», браліся за навейшыя рэчы, якія добра ўдаваліся; аб'ездзілі паўпавета са сваімі «прадстаўленнямі», хвалілі нас направа ды налева. А ў час павятовых аглядаў казалі нам так:

— Вы маеце другое месца, бо трэба падтрымаць на духу той-а-той гурток, які першы раз выступіў...

Або:

— Ведаеце што: ігра ваша добрая, усё добрае. Вы ўжо старэйшы калектыў і зразумееце, што трэба падтрымаць калектыў з той-а-той вёскі, якому мусова даць першае месца. Бо той-а-той калектыў якраз у гэтым годзе пабудаваў грамадскім чынам святліцу, хаця іх аматарская ігра слабая...

Кіраўнікі добрых гурткоў выслухоўвалі такія просьбы, ішлі «на руку» палітыцы арганізатараў аглядаў. Аднак сярод самых самадзейнікаў добрых калектываў заставалася соль на сэрцы, пачуццё крыўды, — зрэшты, цалкам слушнае.

Уся справа ў тым, каб мастацкія імпрэзы, дзе канкуруе сцэнічнае майстэрства, не ператвараць у імпрэзы-ўзнагароды за нешта іншае. Напрыклад, за будаванне святліцы. Рэч пахвальная, але за святліцу можна ўзнагародзіць гурток той іначай, а не коштам іншых гурткоў.

Гэту перасцярогу кіруем перш за ўсё ў адрас беларускага актыву. (ся)

# Пра ўгнаенні і іншыя справы

Загадчык пачатковай школы ў Малінніках, Сцяпан Бурыла, належыць да шанаваных і вопытных настаўнікаў. Апрача педагагічнай, выхаваўчай працы вядзе пастаянную, шырокую, шматбаковую дзейнасць у асяроддзі. Ужо шмат гадоў з'яўляецца ён сакратаром грамадскага камітэта партыі ў Грыгораўцах. Грыгораўцы — гэта сядзіба ГРН, да якой належыць вёска Маліннікі. У сакратара грамадскага камітэта многа спраў. Можна смела сказаць, што ў яго на галаве найважнейшыя справы ўсяе вёскі. Найважнейшай з'яўляецца зараз справа ўгнаенняў.

Сябра Бурыла выцягвае з шуфляды жмут папераў і падае дадзеныя: у вёсцы Дыдулі планавалася купіць 7,3 тон угнаенняў, купілі — 9,3 тон; у вёсцы Чэхі Забалотныя планавалася 7 тон, купілі — 7,20, у вёсцы Алекшы планавалася 3,6, купілі — 7,20. Словам, план пакупкі ўгнаенняў у многіх вёсках Грыгораўскай ГРН — перавыкананы. Ёсць аднак і такія вёскі, у якіх план пакупкі ўгнаенняў не выкананы. Гэта перш за ўсё самі Маліннікі. Сябра Бурыла тлумачыць гэта шматлікімі аб'ектыўнымі прычынамі. У Малінніках у гэтым годзе праводзілася камасацыя зямлі. Сяляне былі надта моцна заняты праблемамі камасацыі і таму не маглі выкупіць усяе прыдзеленай ім долі ўгнаенняў. Затым у грамадзе ёсць шмат сялян, гаспадаркі якіх зусім занядбаныя. Сяляне гэтыя не гаспадараць па-гаспадарску, не выкупляюць угнаенняў і не вывязваюцца з аніякіх сваіх абавязкаў. Агульна беручы, у ГРН Грыгораўцы на агульную колькасць 830 гаспадароў аж 113 гаспадароў увогуле ўгнаенняў не купляе. Іх долю купляюць сяляне, якія вядуць гаспадарку на належным узроўні.

— Як рэагуе большасць сялян на абавязак пакупкі ўгнаенняў? — пытаю сябру Бурылу.

— Тыя, хто добра гаспадарыць, — адказвае сябра Бурыла, — кажуць, што ім тут нічога новага. Яны і раней высявалі на сваіх палях не менш угнаенняў, чымсьці цяпер. А тых, што ўгнаенняў не купляюць — прымусіць да гэтага надта цяжка, бо гаспадаркі іх найчасцей надта занядбаныя.

Грамадскі камітэт партыі ў Грыгораўцах робіць аднак усё, каб павысіць узровень гаспадарак у грамадзе не адным толькі прымусам. Так, напрыклад, забавязалі аграномаў, каб ва ўсіх вёсках грамады было праведзена абучэнне сялян адносна карыстання штучнымі ўгнаеннямі. Другой праблемай, якую імкнецца вырашыць мясцовая партарганізацыя і ўлады грамадскай рады, з'яўляецца загаспадараванне апушчаных і занядбаных грунтаў. У грамадзе прынята пастанова аб загаспадараванні ўсёй занядбанай зямлі. Грунты з Дзяржаўнага фонду зямлі будуць пераказаны найлепшым гаспадарам, калі ж разыходзіцца аб гаспадаркі занядбаныя, то мясцовы актыў будзе імкнуцца да таго, каб былі яны на добраахвотным дагаворы пераказваныя сялянам, якія гаспадараць добра. Гэтыя гаспадары вывязваліся б са сваіх абавязкаў у адносінах да дзяржавы і давалі б невялікую адплату ўласнікам гэтых грунтаў.

Гаспадарчых праблем у Грыгораўцах, Малінніках ды іншых суседніх вёсках нямала. Вось хаця б справа сенажацяў, якіх моцна не хапае мясцовым гаспадарам. Хімізацыя сельскай гаспадаркі патрабуе аднačасовай механізацыі, а гаворачы больш звычайна — справа ў тым, каб не рассяваць грызучых угнаенняў з плахты. Праведзеная ў Малінніках камасацыя зямлі выклікала — як амаль заўсёды гэта бывае — незадавальненне многіх сялян. Вядома, незадаволеныя не тым, што камасацыя праведзена ўвогуле, але таму, што, як кажа пагаворка, усім і Саламон не дагодзіць. А землямеры ж не Саламоны, толькі звычайныя людзі, з усімі людскімі слабасцямі.

Гэтыя і іншыя справы і праблемы павінен ведаць і павінен аналізаваць сакратар грамадскай партарганізацыі, кіраўнік школы — Сцяпан Бурыла. Нягледзячы на цяжкасці — ён поўны аптымізму.

— Найлепшым аргументам за аптымізм, — гаворыць ён, — з'яўляецца пастаянны ўзрост ураджайнасці з гектара. Калі 10 гадоў таму назад плён чатырох збожжавых культур быў у нашай грамадскай радзе 10,3 цэнтнераў з гектара, зараз ён мае 16,8 цэнтнераў.

**Ул. Паўлючук**



**ЮШКАЎСКАЯ МАЛАЧАРНЯ**

**Юшкаўская малачарня, даволі неапетычна званая «злеўняй», абслугоўвае васьмікіламетравы гаспадарскі раён. Звозяць сюды малако з хутароў і вёсак. Закупкамі малака і цэлай «злеўневай» гаспадаркай кіруе Фёдар Баршчэўскі.**

**За гэты год закуплена тут каля 280 тысяч літраў малака. У зімовыя месяцы ў сярэднім закупляецца тут каля дваццаці тысяч літраў штомесяц. Гэта не многа, і не мала.**

**На здымку за малачарскім будынкам у Юшкавым Грудзе відаць аграномка — суседства амаль сімвалічнае. Гэта ад аграномa таксама вельмі многа залежыць тое, колькі малака будзе сёлета.**

**(ся)**

**Фота — Р. Сянько, ЦАФ**

Войшках — 81,8%, Рэдутах — 85%. У беларускіх асяроддзях толькі дзве школы, у Снежках і Пашкоўшчыне, маюць нізкую спраўнасць. Там шмат вучняў не пераходзіць з класа ў клас, там двухгадовасць у адным і тым жа класе даволі вялікая. Але гэта нейкае спецыфічнае выключэнне, узалежненае ад многіх абставін, аб якіх мы напішам у іншым артыкуле.

Ацэньваць дыдактычна-выхаваўчы узровень можна таксама паводле вынікаў экзаменаў выпускнікоў 8 класаў у сярэднія школы розных тыпаў. У чэрвені 1969 года выпускнікоў васьмікласных школ (у якіх выкладалася беларуская мова) было 442. З іх здало экзамены і пайшло вучыцца далей 377 асоб, а гэта значыць 84,4 % агульнага ліку выпускнікоў. Гэтыя факты гавораць самі за сябе.

І яшчэ адна справа. Часам гаворыцца, што моладзь, якая вучыцца ў школах з беларускай мовай навучання атрымлівае слабыя вынікі ў авалоданні польскай мовы. Але гэтай думкі нельга абагульняць. Яна, можа, і пацвярджаецца ў школах тых, дзе невысокі ўзровень навучання. Каб быць у курсе справы адносна гэтага пытання, інспектарат асветы ў Бельску Падляшскім 6 чэрвеня 1969 года правёў даследванне ў чацвёртых класах. І так, у Зубаве па польскай мове сярэдняй ацэнкай была чацвёрка, у Рыбалах — 4,3, у Плюцічах — 4, у Пасынках — 3,6, у Шчытах — 3,5. Выхаванне і выкладанне ў школах з беларускай мовай навучання служыць падрыхтоўцы вучняў да жыцця, выхоўвае на добрых патрыётаў нашай краіны, на добрых інтэрнацыяналістаў.

**Міхась Хмялеўскі**

# Як Поган не мае рацыі

У час агульнапольскай сесіі Секцыі крытыкаў Аб'яднання польскіх артыстаў-музыкаў, што адбылася ў Беластоку, музык нашага сімфанічнага аркестра, Станіслаў Поган, выступіў з вострай крытыкай. Крытыкай, як кожная, нервовай. Але, бадай, галоўнае ў тым, што была накіравана яна амаль у імянныя адрасы кіраўнічых дзеячоў беластоцкай культуры. Поган гаварыў аб цяжкіх умовах аматарскага руху на Беласточчыне, сцвярджаючы згоднасць сваіх меркаванняў з меркаваннямі некаторых устаноў, з якімі давялося яму супрацоўнічаць у галіне развіцця таго ж руху. Між іншым, спаслаўся і на Кураторыю. Вынік быў такі, што Кураторыя атрымала проста данос на Погана, даўжэзны данос з афіцыяльнымі пячаткамі і подпісамі, копія якога была разаслана ўсім зацікаўленым установам, нават Упраўе ўнутраных спраў пры ВРН. Данос, на які ніхто ўсур'ёз не зарэагаваў, а Кураторыя дала ніякаваты адказ толькі ў выніку просьбы -націску з боку ваяводскага Аддзела культуры, які зацікавіўся віною Погана і сэнсам даносу. Словам, усё яшчэ тыповая ў нашым беластоцкім асяроддзі справа, у якой хтосьці кагосьці абразіў, хтосьці камусьці вырашыў «не дараваць»! Поган не мае рацыі. Ён не можа мець, зроблена ўсё, каб не меў той рацыі нават на міліметр... (ся)

# Сухоты ходзяць па людзях

У нашай краіне цяпер больш людзей хварэе на сухоты, чым у такіх слабаразвітых краінах Еўропы, як Партугалія. Пераважная большасць сухотнікаў — у вёсках, горад шмат здаравейшы. Гэта з'ява звязана непасрэдным чынам з культурай быту, чысцінёю і магчымасцямі кантролю свайго здароўя. Асабліва хварэюць дарослыя, якія заражаюць дзяцей і моладзь.

Зацікаўленне барацьбой з сухотамі ў нашых паветах вельмі слабое. У Бельску, напрыклад, не арганізавалі грамадскага супрацьтуберкулёзнагакамітэта, які мог бы заняцца прапагандаваннем патрэбы рэнтгенаўскіх прасвятленняў. Вельмі добра працуючы супрацьтуберкулёзны камітэт у Саколцы ў апошні час чамусьці раптоўна загамаваў дзейнасць. У гэтым павеце далёка яшчэ да вырашэння праблемы сухотных хвароб, працы шмат. Чаму глядзяць на ўсё гэта з абыякавасцю? Гэта пытанне кірую перш за ўсё ў адрас павятовага Аддзела здароўя.

Сухоты, калі іх хутка выкрыць, можна лёгка вылечыць. І таму вялікая тут роля рэнтгенаўскіх прасвятленняў. Без іх немагчыма выкрыць сухоты ў іх ранняй стадыі развіцця. Але неразумная плётка нясе несамавітую вестку аб тым, што рэнтген псуе здароўе. У выніку плётка стварыла такую сітуацыю, што некаторыя баяцца ісці прасвятліцца рэнтгенаўскім апаратам. У сучасны момант на Беласточчыне каля шасцідзесяці тысяч сухотнікаў, пераважна ў вёсках. Рухомыя рэнтгенаўскія амбулансы, якія ездзяць па вёсках і робяць тыя прасвятленні, нярэдка не маюць чаго рабіць. Грамадскія рады, солтысы не дапамагаюць працаўнікам амбулансаў у інфармаванні насельніцтва аб магчымасцях прасвятлення. Нашы вясковыя ўстановы месцамі да таго абюракраціліся, што нават у справах здароўя насельніцтва, у справах дапамогі інфармацыйнай патрэбны спецыяльныя ўказанні начальства. Гэта проста нялюдскае! Чуем, у цэнтральных ваяводствах Польшчы нават пракуратуры прымушаюць сухотнікаў ісці лячыцца, каб не ўганялі ў хваробу сваіх блізкіх. А ў нас, на Беласточчыне, наадварот: штораз чуем, як з бальніцы проста ўцякаюць сухотнікі дахаты, і няма моцных, якія прымусілі б лячыцца рассаднікаў сухотніцкіх заразак. Саромеюцца сухотаў так, як венерычных хвароб!

А гэта ўжо настолькі дзіўнае, што аж незразумелае. (ся)



**Шаша на Гайнаўку. Фота А. К.**

